# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №111

ЛІПЕНЬ- ЖНІВЕНЬ 2008

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## БОНБА Ў ФАЛЬШЫВЫ ДЗЕНЬ.

Толькі Бог уратаваў жыцці некалькіх дзесяткаў людзей, з тых, што сабраліся на афіцыйны фэст фальшывага дня незалежнасьці. Нягоднік ці нягоднікі паклалі пару бонб, пэўне, для надання большай пікантнасьці сьвяту. Адну паліцыянты знайшлі, але чамусьці нікому нічога не расказалі. Народ працягваў «балдзець», а тут жахнула другая бонба, параніўшы некалькі дзесяткаў чалавек.

Паліцыя тут жа пачала сьледзтва. Першымі пад падозранне патрапілі апазіцыянеры. Паліцыянты бралі ўсіх па сьпісе, нават тых, каго ў Менску і блізка не было.

Гэта вельмі нагадвала анекдот пра п"яніцу, які шукаў загублены гадзіннік пад ліхтаром, таму што пад ім відней.

Што такі метад гаўно відаць выніках.

Але, пэўне, не на вынік гаравала адданая паліцыя, а на тое, як лепей убіць у даверлівыя агульнанародныя галовы ідэю: «апазіцыя- гэта страшна».

Прывучаныя бязмозкла верыць тэлевізарнаму прапагандысцкаму пойлу дуброўскія бабкі праявілі цікавасьць да таго, ці быў у той дзень у тым месцы тутэйшы іхні і цароў вораг, апазіцыянер, у Менску.

Пара б гэтым тэлевізарным рабыням ведаць, што ніводзін граматны чалавек не лічыць 3 ліпеня днём незалежнасьці. 3 ліпеня 1944 года ў Менску памяняліся акупанты: замест лютага чужога забойцы прышоў «свой» лагаднейшы.

Строга кажучы, народ радаваўся, што паны перайшлі біцца ў іншае месца.

Рассьледаваць злачынства прыпаўзьлі і маскалі. А етыя нашто? Хай у сябе са сваімі разьбяруцца.Цікава, які зь іх быў толк?

Людзі дасьведчаныя кажуць, што наўрад ці знойдуць злачынца(ў). З паліцыі паўцякалі добрыя сьпецыялісты, іх замянілі армейскімі кадрамі, якія дужа верныя рэжыму, але не петраць у крымінальных справах.

У Дуброві ля маказіна павесілі былі сьпярша адзін мулюнак меркаванага злачынца, потым павесілі іншы.

Цяперака ён вісіць над працоўным месцам загадчыцы Раісы, хто хоча, хай пазірне.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РАДАСЬЦЬ.

Хоць Яго мала хто ў Дуброве прасіў пра гэта, Бог даў нам добры ўраджай. (От як важна мець хоць бы аднаго праведніка ў селішчы! Прыклад Садому і Гаморы шчэ раз пацьверджаны!).Збожжавыя культуры далі болей за 32 цэнцары з гектара. Гэта без уліку таго, што пападала пад канбаі. Збажыны зьбіралі ладнага,але слабым месцам была ейная апрацоўка.

Надзвычай нізкі ровень механізацыі збожжатаку. Ні пад"ё мнікаў, ні караў. Любы дождж мачыў збожжа, хоць і накрывалі яго плеўкамі. Да таго ж пляцоўка пад збожжам замошчана так, што вада сьцякала проста пад збажыну.

На таку гаравалі пераважна жанчыны і трохі маладых дзевак. Жанчыны ўсе былі пеньсіянэркі і добрасумленна рабілі цяжкую працу. Але калі гэтая дурная праца скончыцца? Трэба ж дбаць і пра прагрэс.

Ці ж былі выпадкі несанкцыянаванага прысабечання прадукцыі расьлінаводства? Былі, ёсьць і будуць. Змагаліся з гэтым.? Яшчэ як! Але марна.

У Дуброві закладзены добры падмурак для мясцовых дажынак.

І ўсё ж...

Усё ж пазіраючы на працу пажылых людзей не-не ды й падумаеш: колькі шчэ вытрымае гараваць гэты другасны працоўны рэсурс? Некалі ж павінен скончыцца завод у гэтым механізьме. Калхоз болей не раджае сабе рабоў. Дэмаграфічная катастрофа не за Парычамі. Яна ў Церабуліне і Марцінаўцы, у Язьвіне і Вялікім Бары. І ў Дуброве.

## АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ.

Наш баявы лісток мала цікавяць гэтыя паганскія, допінгавыя, камерцыйныя, празьмерна рэкламаваныя ігрышчы.

Да таго ж яны ладзяцца ў краіне, дзе няма палітычнай свабоды, дзе прыгнятаюцца не ханьскія народы, як Тыбет.

Усе прагнуць алімпійскіх медалёў, быццам на іх сьвет клінам сышоўся.

Пазіраючы на гэты чысты псіхоз не-не ды й падумаеш: а ці не дзеля падману людзей прыдуманы гэтыя сатурналіі?

# ВЫНІК ВЫХАВАННЯ НА ЎЗОРЫ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЬЦІ ЗЛОДЗЕЯ І БАНДЫТА.

*/матэрыл да ўвагі і помачы дуброўскім і павятовым адукатарыхам /*

Малады і прыгожы трахтарыст Андрэй Т. з Дубровы-Агры, падбухтораны і спакушаны каляжанкай па працы і па вядомаму закліку бальшавікоў «рабуй нарабаванае» узяў сабе і вёз трахтарам пару мяхоў нікому непатрэбнай лішняй мукі. Але гэта ўбачылі зайздросныя цыганьскія народныя вочкі дзьвюх кароўніц-Ларысы Г і вежнаўской імігранткі Людмілы Л. і данесьлі пра гэта начальніку кароў КП.Тойдалей. У выніку прыехала міліцыя, доўга, нудна і з спачуваннем- (мы вас разумеем, але ж пападацца не трэба) да маладога калхозьніка - хіба не подзьвіг пагадзіцца працаваць у нашай сельскай гаспадарцы?!- гідліва складала складаны акта-пратакол. Потым пратакол, як і піва, чакаў адстою, але ўсё ж патрапіў у суд.

Суд спрытна пакараў маладога мужчыну штрапам памерам у мільён рублёў. (наба што не мільярд- дзе ж узяць столькі грошай?)

Мужчына зажурыўся, вядома, але не губляе надзеі спаймаць і залажыць сваіх крыўдзіцелек, тым болей, што й яны часам займаюцца прысабечаннем былой «сацыялістычнай», а зараз чорта лысага, маёмасьці.

Чаму ж у нас у Беларусі народ часта, асабліва на выхадныя і сьвяточныя дні практыкуе адно з нацыянальных хобі-дробнабуржуазную кражу?

А таму, што гэта вынік многіх дзесяткаў год выхавання нашых дзяцей на «ўзоры жыцця і дзейнасьці Ўладзіміра Ільіча Леніна». От.

Хто такі дваранскі сын Ленін? Гэта чалавек, які здолеў арганізаваць найвялікшы ў сьвеце пагром і рабаванне цэлай імперыі. Пад ягоным кіраваннем абрабавалі ўсіх багацеяў Расеі, царкву, сярэднюю класу, а пасьля саміх сялян. І ўсё гэта ад і ў імя нейкіх бедных і прыгнечаных, хіба што мо з Марсу.

Добра засвоіўшы ў школе «ўзор» нашы дзеці, стаўшы дарослымі, -(і мы таксама)- пачынаюць ажыццяўляць упіхнутую ў іх выхавальную праграму.

Яшчэ воч пасьля сну не разлускаюць, а ўкрасьці хочуць раней, чым выпіць і пад”есьці.

Дальбог, калі ўсе- ад напамаджанага найвышшага начальніка-(памятаеце, як Казулін пытаў у Яго «Дзе грошы, Аляксандр?») -да мурзатага трахтарыста і сырадойнай даяркі прайшлі праз стандарт таго шалёнага выхавання, то хочаш-не хочаш, а зоймешся вялікай амеры.., даруйце, беларускай марай.

І чаму б не зрабіць нацыянальным гімнам ведамыя ўсім радкі:

«Калі хочаш жыць у шчасьці, трэба красьці, красьці, красьці.»

Ухваляючы савецкую школу і савецкае выхаванне беларускі рэжым тым самым ухваляе і зладзейскае «ленінскае» выхаванне.

А пакутуюць ад яго маладыя прыгожыя хлопцы.

# АЛЯКСАНДР - ПРЫГОНШЧЫК.

Расейскі цар Аляксандр Другі аслабаніў расейскіх сялян ад прыгону. За гэта яго празвалі Аслабаніцелем.

Бальшавікі скасавалі сялянскую свабоду і ўвялі ізноў для сялян калхознае ярмо. Хрушчоў аслабіў занозу і кульбаку, даўшы сялянам пашпарт. Сяляне, па закону свабоды, пайшлі ў гарады. Бальшавікі, бачачы, што з вясковага раю ўцякаюць у гарадскі вырай нават сьпецыялісты, увялі ізноў шворку: памятаеце, ветэрынару, аграному, заўтэхніку не давалі на рукі дыплому пакуль не адробіць два гады ў калхозі.

Калхозная атхла, як тыя амерыканскія ўраганы, працягвае нішчыць вёску.

І вось ізноў Аляксандр,гэтым разам Лукашэнка, мацае на лаве шворку на шыю сельскагаспадарчых сьпецыялістаў. Ён пасталіўся прыняць закон, які б наогул скасаваў Юр”еў дзень для гэтай катэгорыі працоўных і навечна замацаваў бы іх за калхознымі латыфундыямі.

Гэта нечуваны і жахлівы намер. Дык хай бы ён, як сельскі эканаміст, першы ўсчапіў тую шворку сабе нашыю і вярнуўся на працу ў свой саўгас «Халадзец» ці як яго там. Глядзіш, і з жонкаю сыйшоўся б.

Вельмі магчыма, што пачынаецца з сельскай гаспадаркі, а скончыцца прымусам і прыгонам для ўсіх. Спецыялісты сельскай гаспадаркі! Актыўней ладзьце агітацыю супраць сам адурства дыктатара! Бог вам у помач!

## ЧУТКІ, ЯКІЯ СПРАЎДЖУЮЦЦА

Чуткі пра падвышку пеньсійнага ўзросту ходзяць даўно. Хоць хакейшчык-узурпатар вяшчае направа і налева пра нейкую «стабільнасьць» у сваім валадарстве, насамрэч нічога станоўчага ў гэтым няма.

Стабільна нізкая працягласьць жыцця народу- мужчыны зараз жывуць 62,7 года, на 12-15 год меней, чым у Еўропе- нізкая нараджальнасьць пагражаюць цяжкімі эканамічнымі наступствамі.

Каб неяк выкруціцца, не ад дабра!- каланіяльны рэжым пайшоў на клычанне школы, скараціўшы перыяд школьнага навучання. Ён спадзяецца раней атрымаць працоўныя рукі. І вось зараз яшчэ ўпарцей захадзілі чуткі пра падвышку пенсійнага веку.

Калі значная частка мужчынскай працоўнай сілы існуе толькі 62,7 года, то выйгрыш у працы невялікі. Мужыкі будуць паміраць на працоўным месцы.

Большы выйгрыш будзе ў непатрэбе плаціць пеньсіі.

Так, у Еўропе пенсійны век даволі высокі. Але і якасьць жыцця, працягласьць камфортнага жыцця там вышэй. (Камфортнасьць жыцця- гэта тое жыццё, якое чалавек жыве без сур"ё зных хвароб). Для падтрымання працоўнай сілы ў добрым стане патрэбна спраўная медыцына. Але зараз з-за нізкай зарплаты ў Беларусі нехапае дактароў. Пры камуністах дактары былі.

Бальнічнае абсталяванне старое і паганай якасьці. Сродкаў на лекі і расходныя матэрыялы- бінты, пластыры, сьпірт, гіпс, анучы, швабры і пад- нехапае. Народ п"е агідную ваду і жахлівае алкагольнае пойла. Сем"і неўладкаваныя Мужчыны не ўмеюць трымацца сям"і і жанкі не хочуць і не могуць адны гадаваць дзяцей. Адукацыяй кіруюць даўбешкі ад верху да нізу.

Нарысаваць дэкрэт можна дужа борздка. Але ці дасьць ён жаданы плён?

Не пенсійны век трэба падаўжаць, а скарачаць тэрмін знаходжання ля ўлады хітрага, але бязграматнага, бязьлітаснага дэмагога.

## ПАЙШЛІ Ў ЖЫЦЦЁ.

У самастойнае жыццё выправілася група маладых людзей, што скончылі навучанне ў «навучальна - выхаваўчым комплексе ясьлі-дзіцячы сад Дуброўская сярэдняя агульнаадукацыйная школа»- так па-ідыёцку цяпер гэта ймянуецца.

Пару хлопцаў паступілі на дзённае навучанне ў ВНУ, пару дзяўчат на завочнае навучанне ў ВНУ, - гэта каля 40% ад колькасьці выпускнікў.

Рэшта патрапіла хто ў тэхнікумы, хто ў прафесійныя вучэльні. Так што ў Дуброве шчэ няблага вучаць. Дарма, што некаторыя дуброўскія даўбешкі часам плявузкаюць абы- што на настаўнікаў.

Але вось бяда: вычарпаецца запас тых, каго можна вучыць. У школу прыйшло трохі болей за 60 дзяцей, адна жменька.

Большая частка дзяцей з дэфектных сем"яў.

Ды і тое, што з школы адправілі на пеньсію вопытных настаўнікаў адаб"ецца на якасьці ведаў. Адзнакі мо й палепшаюць, але гэта другаснае.Бацькам трэба быць пільнымі да навукі дзяцей і да дзейнасьці школы..

## ПАДМЕНА.

Часова на працу ў навучальна-выхаваўчы комплекс дзіцячыя ясьлі-калхозны сад Дуброўская школа мабільных тэлефончыкаў прыслалі трох навучыцялёў. Гэта настаўнік, які вучыцьме дзетак матэматыцы, адна настаўніца малых класаў і настаўніца англійскай і спадарожных моў. Усе маладыя людзі на ганку працоўнага веку. Хай жа паможа ім Бог і падтрымаюць бацькі ў іхняй важнай і нялёгкай справе навучання дзетак.

Посьпехі гэтых маладых людзей будуць вызначацца і тым, наколькі далікатна паставіцца да іх адукацыйнае начальства.

Увогуле ж, маладыя людзі доўга не затрымлююцца ў школе: праца нялёгкая, плата малая, псіхічная нагрузка значная, кар"еры аніякай. А ў паміраючай вёсцы тым болей.

## ЗАВАРУШЫЛАСЯ.

Спраку-веку дуброўцы марылі стаць аграместачкоўцамі. І вось толькі пры А. Рыг. яны сталі дубровааграмі. І гэта дае свой плён. Заварушылася ў Дуброве. На вуліцы Цеплякова-калгаснай ставяць бетонны незгнівальны плот. Капаюць канавы і кладуць пластмасавы вадаправод. Цягнуць кабелі пад новую тэлефонную лінію. Рамантуюць і пашыраюць шашу. Навалялі бяроз паўз дарогу. Любата!

Толькі вось лазьні грамадскай німа і нешта не прадбачыцца.

Безь яе Дуброва будзе трохі нагадваць трохзоркавы сьвінюшнік з тэлефонамі і «Сов. Б.» ў грамадскіх месцах.

Чаму так упарта не ладзяць лазьню? Га?

## ЖАЛАБНІКІ.

У самы разгар жніўня амаль усе былі ўзрушаны страшнай навіной: каварная Грузія, падвучаная Амэрыкай, на сваёй тэрыторыі, у Асеціі, напала на Сьвятую Русь. Як стала вядома пазьней, Сьвятая Русь шчэ за месяц да гэтага трэніравалася і рыхтавалася да нападу. Усе беларускія кухвайкі навыперадкі пачалі шкадаваць бедных, багата пабітых людзей, (прыкладна 150 чалавек) і нявінна напакутаваную Сьвятую Русь. А галоўны сьвятарускі візір Пуцін аж падскакуваў на сытых палойках ад радасьці, што «грузіны атрымалі па пысе».

Беларусы недалюблююць грузін: беларускі селянін пад прыгонам рачкаваў на палях, ля станка, ваяваў за Сьвятую Русь, куды яго ні гналі, плаціў падаткі ва ўсесаюзны фонд, аддаў маскалям на расьцярзанне мову і не мог без трох даведак з сельсавету прывезьці ўвосень з Дубровы ў Шацілкі мех картопель дачцэ ці сыну. Грузін быў вольны ад савецкай уласьці: ён да 1944 году не служыў у арміі, ягоную хату не палілі немцы, ягоная мова заўсёды мела статус дзяржаўнай, ён вольна вазіў садавіну з свайго саду куды хацеў і ніхто яму не перашкаджаў, ён браў грошы з усесаюзнага фонду. Ён казаў пра нашых людзей: «Працавітыя, але быдла». Таму беларусы не маюць сімпатыі да грузін.

Але ісьціна не залежыць ад сімпатый ці антыпатый. Гэта Расея даўно акупавала частку Грузіі- Асецію-, выдала тамака людзям расейскія пашпарты, узброіла тамтэйшыя банды і толькі чакала моманту, калі Грузія паспрабуе вярнуць пад свой законны кантроль мяцежную тэрыторыю. (Як Сьвятая Русь вяртала сабе Чачэнію). Але ў галовах беларусаў перамагла не ісьціна, а расейская ваенная прапаганда, дзе няма ні каліва праўды.

За сябе трэба перажываць, а не за чужыя войны. Ці мала шчэ Расея будзе ваяваць?! Крый нас, Божа-Збаўца, ад такога «саюзьнічка» і ад такіх беларускіх недарэк, што рады чужым непатрэбным нам, перамогам.

---

## ЗАМЕСЬ ВЫБАРЫ.

Пад канец жніўня забегалі, заварушыліся дуброўскія бабы. Рэжым узваліў на іхнія плечы клопаты і турботы пра выбары.

Тамара Друзік, загадчыца Дома Культуры- іначай Храм Сатаны -на- Царкоўным- Цьвінтары- зьбірала подпісы за самую галоўную кандыдатуру: Валянціну Кавалёву. Пасьведчанне члена ініцыятыўнай групы яна не паказувала і пашпартных дадзеных не патрабавала: абы чалавек паставіў свой подпіс. Тамара чалавек несамастойны: што скажуць, тое і будзе чырыць. Але трэба ж захоўваць правілы выбарчага кодэксу, мала хто што табе загадае.

Тое, што выбары 28 верасьня- гэта пацешны фарс, насьмешка і бутафорыя сьведчыць прафесійны склад камісіі: кухарка, прыбіральшчыца, санітарка, трактарыст... Канешне, самі па сабе -гэта прыстойныя людзі і праца іх важная. Але прыніжаючы статус камісіі ўлада паказуе, што на выбары ёй напляваць: галоўнае, каб народ прышоў і кінуў бюлетэнь. Астатняе нізкаякасная камісія зробіць так, як ёй скажуць. Людзі адукаваныя маглі б заўпарціцца і задаць лішнія пытанні.

**Дык законна спытаць: Чаму ў камісіі німа Віці Графа?**

## НОВАЕ ПАДАРОЖЖА МІКОЛКІ-ПАРАВОЗА.

Страдны і пакутны сіротка Міколка нядаўна езьдзіў з таткам Сашкам у Кітайчык на тамтэйшыя Алімпійскія гульнячкі. Дзіцятка мосна шкадавала астатніх беларускіх дзетак, якім ліхі беларускі прэзідэнт забараніў лячыць ваўкі за мяжою. Шчасна і бесклапотна жыве Міколка, крон-прынц, вялікі княжыч і эрцгерцаг Беларусі, хай не ўнывае па ім мачыха Арына, даруйце, Галіна Радзівонаўна.Ён на цёплым лане.

---

Пабраліся шлюбам
**Вера Бусел** і
**Аляксандр Мазур**.
Жадаем маладым людзям доўгага і палкага кахання ды шматлікіх патомкаў.

---

Маленькую дзяўчынку
**НАСЬЦЮ**
нарадзіла Таня Сівалап.
Жадаем беларусачцы расьці шчаснай, дужанькай і прыгожай. (Пра гэта можна б і не пісаць: усе беларускія дзяўчаты прыродныя прыгажуні.) А маме здароўя і радасьці.

Пайшла ад нас
добрая беларуска
**КАЛЯДА**
**Марыя Іванава**
Хай ёй мяккай будзе зямелька.

Заўчасна пайшоў ад нас
**Бусел**
**Мікалай Мікалаеў.**
Неўладкаванае жыццё
прынесла смутак
ягонай маме і родным.
Хай Бог даруе яму ягоныя
правіны.

Друкарня імя І. Масьціцкага 100 асобн.